# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
385 Alabama Ave, Apt. 17, Brooklin 7, New York, U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ У З. Г. А. BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE USA 10 ЦЭНТАЎ

Год IV. № 13 (37) 1 Ліпеня 1953 г. NEW YORK, N. Y., U. S. A. July 1, 1953 Vol. IV. № 13 (37)

# Канец розных ілюзіяў

У сувязі з апошнімі крывавымі падзеямі ў савецкай зоне Нямэччыны, перад намі ўстаюць два пляны апанаваньня сьвету: 1. савецкі й 2. нямецкі.

Сам Ленін, хутка пасьля ягонага „бунту" ў 1917 г., які ён назваў „сацыялістычнай рэвалюцыяй", колькі разоў паўтараў, што для асягненьня сусьветнай „рэвалюцыі" бальшавіком трэба толькі захапіць уладу ў Нямеччыне, а рэшта сьвету сама ўжо стане на калені й папросіць іх „валадаць і панаваць" над ёю. І толькі моцная тады нямецкая сацыял-дэмакратычная партыя перашкодзіла гэтаму вялікаму няшчасьцю чалавецтва. Эбэрт, Шэйдэман і Носке былі ў 1918 г. крыху разумнейшыя й культурнейшыя ад расейскіх меншавікоў ды іншых сацыялістых, таму не яны ўцякалі з свае бацькаўшчыны, а наадварот, за краты павандравалі аднадумцы расейскага бунтара Леніна — К. Лібкнэхт і Р. Люксэмбург, вучні Маркса, якія былі таксама спрабавалі правесьці сваю бальшавіцкую „рэвалюцыю" ў Нямеччыне. Уся „бяда" была тады ў тым, што нямецкі народ ці то недасьпеў, ці то перасьпеў для крывавае „клясавае" барацьбы. Тут напэўна й „сам" Ленін нічога-б не зрабіў. Бо-ж нямецкі народ, як мы добра пераканаліся, зусім не разумее бальшавіцкага лёзунгу: „граб награбленае", г. зн. цягні, што пад руку трапіць, хай і чужое, бо-ж усё тваё. Ды яшчэ й: забівай, рэж, паласуй на кускі хоць роднага бацьку, маці, калі толькі яны не дасьпелі для... сацыялізму! На гэта ўсё быў „дасьпеў" тады толькі адзін „вялікі" народ на Усходзе, які мае місію „абнавіць" чалавецтва!

Але гэта толькі між іншым. Асноўная справа ў тым, што немцы ніяк ня ўмеюць рабіць бальшавіцкую рэвалюцыю. Калі, скажам, такі Лібкнэхт меў яшчэ можа, хай сабе й „недасьпелы" пралетарыят за сабою, дык што ўжо казаць пра такога Тэльмана, які беспасярэдня перад прыходам Гітлера да ўлады меў армію ў 5 мільёнаў! І што-ж? На другі дзень пасьля абняцьця ўлады Гітлерам ад усяе гэтае арміі й калёнаў і сьледу незасталося, яны як бы скрозь зямлю праваліліся! Так, немец хоць і камуністы, а свайго біць, забіваць ня хоча. Таму тут нічога іншага не застаецца, як толькі памагчы яму: Іван мусіць прынесьці Фрыцу „свабоду", ды з увагі на ягоную „нясьведамасьць" зрабіць адначасна за яго й „рэж ды паласуй на кускі", або ў сучаснай мове: давай танкі, гарматы й кулямёты! А каб ня было брыдка перад Эўропай, можна сказаць, што гэта ўсё толькі выдумка „імпэрыялістычных агентаў", і людзі павераць, як вераць, або робяць уражаньне, што вераць, нібы ў Саветах няма ні лягероў, ні тэрору.

Словам, Іваны прынесьлі Фрыцам сваю „рэвалюцыю" ды вучаць іх „сацыялізму", каб з дапамогаю іх паставіць на калені ўвесь сьвет. А што-ж Фрыцы? Калі яны цяжкія на бальшавіцкую „рэвалюцыю", дык магчыма яны зусім супраць забойстваў, паняволеньня, гвалтаў? Не, яны таксама майстры на гэта, у чым мы добра навочна пераканаліся. Толькі розьняцца яны ад Іванаў тым, што паводле нацыскае тэорыі паласуюць на кускі чужых, але не сваіх землякоў. Мала таго, гэтыя-ж тэарэтыкі нямецкага нацызму прыйшлі былі да перакананьня, што яны апануюць сьвет з дапамогаю... Іванаў.

Памеры гэтага артыкулу не дазваляюць на глыбейшы аналіз прыгаданае тэорыі нямецкіх нацыстых, творцам якіх быў фактычны кіраўнік Райхсвэру пасьля першае сусьветнае вайны ген. фон Зэкт. Гэта дзякуючы яму з аднаго боку, а Радэку й Чычэрыну з другога, быў надпісаны дагавор у Рапалло, а пасьля нямецкія афіцэры Райхсвэру будавалі ваенныя фабрыкі ў Саветах ды тварылі там сваё лётніцтва й танкавыя брыгады. Заходня-эўрапэйскі сьвет ведаў аб гэтым і маўчаў, бо-ж афіцыйна нямецкі сацыял-дэмакратычны Урад нічога „ня ведаў" аб гэтым, тым болей аб гэтым нічога „ня ведаў" Савецкі Урад.

І гэтая цікавая падвойная гульня, хто каго абдурыць, працягваецца й цяпер. Як усяму сьвету добра вядома, нажаль, таксама „неафіцыйна", Сталін яшчэ ў часе апошняе вайны пачаў быў гэтую гульню, выконваючы „навуку" Леніна, з дапамогаю ген. Паўлюса, ген. Зэйдліца й унука Бісмарка. У выніку гэтае гульні нямецкія паважнейшыя нацысты атрымалі былі высокія пасады ўва ўсходняй Нямеччыне, а дзе-якія галавары лібэральных партыяў сталіся калябарантамі бальшавікоў. Сярод іх асабліва вядомы Отто Нушке, якога дэманстранты моцна патурбавалі ў часе апошніх разрухаў у Бэрліне. Мала таго, як нядаўнія арышты нацыстых у Заходняй Нямеччыне пацьвярджаюць, і тут існуе моцная арганізацыя гэтых калябарантаў з бальшавікамі.

Усё гэта ясна гаворыць, што гульня двох розных дыктатарскіх плянаў апанаваньня сьвету ўсьцяж ідзе. Што яна рэакцыйная й злачынная, сьветчаць чырвоныя й нядаўнія брунатныя канцлягеры з мільёнамі ахвяраў, бязьмежная бяда й галеча ды поўнае патаптаньне гонару й праваў чалавека.

І хто ведае, як бы гэтая гульня выглядала цяпер, калі-б чырвоны Іван не прыйшоў да Фрыца й не спрабаваў з дапамогаю штыха ашчасьлівіць яго сваім „сацыялізмам"? Магчыма, тут была зробленая памылка, ня ўзятая на ўвагу псыхалёгія чалавека, які ўжо ведае што такое свабода, ды які не прывык жыць на сухім хлебе й вадзе, як савецкія людзі, які на працягу даўжэйшага часу, на законных асновах, прывык змагацца за палепшаньне свайго матарыяльнага дабрабыту.

Так ці йначай сталася тое, чаго не спадзяваліся ані чырвоныя, ані брунатныя сябры гульні. Прывыклы да свабоды й дабрабыту немец налажыў сваё „вэта" на іхнія пляны: масава выйшаў на вуліцы ня толькі з пратэстамі, але й з змаганьнем. І цікава, што ніякія калябаранты, ніякія нацыстыя не пасьмелі выступіць супраць сваіх землякоў, маючы добра азброеную „народную" паліцыю, ня гледзячы навет на тое, што шмат хто зь іх былі паважна патурбаваныя дэманстрантамі. Давялося другому „іграку" — чырвонаму Івану рабіць у Усходняй Нямеччыне „парадак" з дапамогай танкаў, гарматаў ды кулямётаў. Прадстаўнікі „сацыялістычнага народу" жорстка выступілі супраць „вызваленага" народу. На вуліцах усходняе Нямеччыны палілася кроў запраўднага пралетарыяту, бо звычайных работнікаў.

Для нас тут важна тое, што кроў нямецкіх работнікаў палажыла канец розным ілюзыям: з аднаго боку ілюзыям чырвоных „ігракоў", што яны з дапамогаю немцаў заваююць сьвет, а з іншага — ілюзыям нацыстых, што яны перахітруюць першых ды зь іхняй дапамогай ізноў будуць будаваць свае крэматорыі для нішчэньня „унтэрмэншаў".

(Канец на 4-й бал.)

### ДА РАЗРУХАЎ У УСХОДНЯЙ НЯМЕЧЧЫНЕ

23-га чырвеня г. г. ў Заходнім Бэрлі не адбылася вялізарная дэманстрацыя, прысьвечаная ахвярам разрухаў у Усходняй Нямеччыне. Да сабраных дзясяткаў тысячаў удзельнікаў, пераважна работнікаў, прамаўляў канцлер Адэнаўэр, які прыляцеў з Бонну.

Моцна усхваляваны, Адэнаўэр пачаў сваю прамову словамі:

— Ведама, танкамі ды гарматамі можна здушыць бязбройны народ, але ніякая зброя не патрапіць здушыць волю народу быць свабодным. Увесь сьвет пабачыў на прыкладзе крывавых нядаўных выпадкаў у Усходняй Нямеччыне, што нямецкі народ ня хоча быць нявольнікамі, што ён не пацярпіць тыраніі і што крывавай камуністычнай дыктатуры ў Нямеччыне надходзяць канцы.

Сьвет спрадвеку схіляў галовы перад героямі-змагарамі за свабоду. Таму й мы ганарымся, што нашыя браты за зялезнай заслонай наважныя скінуць путы няволі. Наш абавязак — спачуваць ім у іхным змаганьні й дапамагаць у гэтай барацьбе, аж пакуль Нямеччына ня будзе ізноў вольнай і задзіночанай".

Як падае прэса ўсяго сьвету, работніцкія разрухі ў Усходняй Нямеччыне ня спыняюцца, ня гледзячы на савецкія танкі, скрозь усяе краіны кіненыя на дэманстрантаў, ды безьліч ахвяраў. Гэтак, камуністычныя газэты паведамілі кагадзе аб „крывавых разрухах" на вялізарным заводзе ў Галлю й аб „непарадках" у Іене, Гэрліцы ды Магдэбургу.

Лічба ахвяраў работніцкіх разрухаў у Нямеччыне расьце.

# Ведаюць, што робяць

Ужо напрацягу год старая, а навет і навейшая расейская эміграцыя упарта адмаўляюцца прызнаць народам, паняволеным сяньня Саветамі, у тым ліку й нашай Бацькаўшчыне, права на дзяржаўную незалежнасьць. Кажнае прыгаданьне аб нашых незапярэчных правох быць гаспадарамі на собскай зямлі — сустракаецца із абурэньнем, з закідамі „расчленительства", злоснага „сэпаратызму", ды інш. Уся чыста прэса расейскае эміграцыі войстра нападае на кажнага з „нацыяналаў", хто адно пасьмее ўзьняць пытаньне вызваленьня свайго краю не ад бальшавізму, але й ад расейскага імпэрыялізму наагул.

Супраць справядлівага жаданьня народаў Савецкага Саюзу вызваліцца й атрымаць магчымасьць жыць сваім самастойным, ад ніякіх „старэйшых братоў" незалежным жыцьцём, прыхільнікі „вялікае Расеі" звычайна, высоўваюць довад, якому пярэчаць нязьлічаныя чысткі, праводжаныя што нейкі час у ўсіх „саюзных" рэспубліках, быццам у Савецкім Саюзе зусім няма нацыянальнага пытаньня, што там ніхто й ня думае аб незалежнасьці, ня марыць скінуць апеку Масквы й што савецкая улада ставіцца аднолькава варожа да кажнага, хто ня выконвае ейныя дырэктывы, будзь ён сабе беларус, калмык ці расеяц з над Волгі, — значыцца, ставіцца зусім роўна да ўсіх сваіх грамадзян.

Людзі, што гэта цьвердзяць, — сьведама заплюшчваюць вочы й на недалёкае параўнальна мінулае й на невясёлую сучаснасьць паняволеных бальшавікамі народаў, на загібель хоць-бы ў нас у гады разгрому г. зв. беларускай „нацдэмаўшчыны" сотняў тысячаў ахвяраў, віною якіх было адно жаданьне вольна жыць, працаваць і тварыць.

Бо чым-жа былі выкліканыя крывавыя бальшавіцкія рэпрэсіі ў дачыненьні да нашых навукоўцаў, пісьменьнікаў ды настаўнікаў? Ці-ж ня было гэта імкненьнем патапіць у крыві што-раз мацнейшы незалежніцкі рух беларускага народу, магутную хвалю нашага неспадзяванага для бальшавікоў спантанічнага культурнага разьвіцьця, росквіту?

І яшчэ... Ці-ж толькі дзеля спагады да беларусаў ды іншых народаў стварылі бальшавікі „самастойныя" нібы гаспадарствы ў гаспадарстве, як БССР, УССР ды інш? Ці-ж ня было гэта якраз тою „адтулінаю бясьпекі", адчыніўшы якую бальшавікі спрытна патрапілі пазьбегнуць вельмі нябясьпечнага для іх выбуху нацыяналізму сярод паняволеных імі народаў?

Але з карэньнем нішчачы кажную небясьпечную для іх праяву патрыятызму ў савецкіх народных рэспубліках, бальшавікі зусім не адкідаюць яго, ня цьвердзяць за прыкладам расейскае эміграцыі, што беларусоў „ня было, няма й ня будзе". Яны толькі накіроўваюць гэты нацыяналізм у патрэбнае ім рэчышча. Дзе трэба — душаць, а дзе трэба — дык і падтрымоўваюць.

Прыкладам, яны прымушаюць беларускіх савецкіх пісьменьнікаў пісаць аб „дружбе савецкіх народаў" і ўдзячнасьці, якую беларускі народ адчувае да свайго „вялікага старэйшага брата", і побач з гэтым усімі спосабамі падтрымліваюць беларускасьць нашае Беласточчыны, якая апынулася сяньня пад Польшчай і жыхарства якое вельмі балюча адчувае прымусовае улучэньне яго ў межы Польшчы.

Аб тым, што там працуе сяньня звыш 200 беларускіх школаў, мы ужо кагадзе на балонках нашае газэты пісалі. Цяпер-ж мы друкуем гэтта ўрыўкі з лісту аднаго з нашых суродзічаў, атрыманага „з краю". У лісьце гэтым пішуць:

— „Яшчэ й цяпер у ўсіх школах Беласточчыны выкладаецца беларуская мова, як прадмет. А 70-ыя ўгодкі нарадзінаў Якуба Коласа сьвяткаваліся сёлета па местах і сёлах тае часткі Беларусі, што адыйшла пад Польшчу, нязвычайна сардэчна. Прыгэтым, з творчасьці паэты, якая наагул багатая вызвольнымі матывамі, выбіраліся дзеля дэклямацыі якраз творы, прысьвечаныя Коласам тэме падзелу Беларусі варагамі. Асабліва шырака выкарыстоўваўся ведамы Коласавы верш „Нас падзялілі, хто — чужаніцы, цёмных дарог махляры. К чорту іх межы, к д'яблу граніцы, нашы тут гоні-бары!"

Наагул, на Беласточчыне да сяньня ня зьнішчаныя й пашыраныя беларускія выданьні з часоў, калі й мы тутка былі. За даўнейшыя беларускія выданьні, за вольнае беларускае слова людзі плацяць сяньня кажную цану. Прыкладам, за нумар „Маланкі" беластоцкія беларусы, — плацяць 1000 — 2.500 рублёў..."

Гэтак пішуць з Бацькаўшчыны. І гэтак ставяцца сяньня да беларускае справы навет ... бальшавікі, намагаючыся здабыць сабе гэтым хоць часткава прыхільнасьць жыхарства Беласточчыны.

Яны, бясспрэчна, ведаюць, што робяць.

Прапагандзе Захаду й тым недабіткам расейскага імпэрыялізму, якія знайшлі гэтта сабе прытулак, варта было-б у спрытных савецкіх правадыроў таму-сяму павучыцца.

**К-а.**

# МУЖНАСЬЦЬ І АДСТУПСТВА

Калі на загад бальшавіцкае Масквы тры гады таму пачаўся напад на дэмакратычную Карэйскую рэспубліку, — Задзіночаныя Нацыі зь ініцыятывы Амэрыкі паставілі дзейны супраціў нападнікам. Тады з трыбуны гэтай міжнароднай арганізацыі прагучэла заява, што мэта Задзіночаных Нацыяў—аб'еднаная Карэя й пакуль гэтая мэта ня будзе дасягнутая — войскі Задзіночаных Нацыяў не складуць зброі. Агрэсар мусіць быць пакараны й павучаны на будучыню.

Гэтая заява, безьліч паўтараная, выражала тады наважнасьць урадаў дэмакратычнага сьвету абцяць агрэсію незалежна ад таго, дзе яна ўзьнікне й супраць якога народу будзе непасрэдна скіраваная.

Гэтая заява мабілізавала тады дэмакратычную сусьветную думку, давала ёй належнае дзейнае скіраваньне. Яна натхняла й карэйскі народ на самаахвярнае змаганьне ў імя свае свабоды й незалежнасьці, жывіла ягоную веру ў перамогу, бо да яго й за ім ішла падмога ўсяго вольнага сьвету. Ідэя абароны свабоды кажнага народу натхняла й саюзных жаўнераў, якія змагаліся на карэйскіх абшарах, каб жыла незагрожанай гэтая свабода й на іхнай бацькаўшчыне. Карэйскі фронт набыў міжнароднае значаньне, бо там былі пастаўленыя на карту гонар свабодалюбнага сьвету, ягоная наважнасьць бараніць гэтак дарагую для чалавека свабоду й чалавечую незалежнасьць перад залевам усяжэрнай чырвонай тыраніі.

Яшчэ сьвет не забыўся на прырачэньне, зробленае з трыбуны й ад імя ЗН, як ці мала сяньняшніх палітыкаў стала на аблудны шлях — на шлях змовы з камуністычным агрэсарам і падрыву веры паняволеных камунізмам народаў у дэмакратычны сьвет. Гэтак мы сталі сьветкамі ганебнага гандлю лёсам Карэйскага народу. Тое, што ўчора было абвешчана непарушнай сьвятасьцяй, у імя якой праліта чалавечай крыві, сягоньня забыта й на ягонае месца прыйшло адступства.

І калі зьняважлівы для заходняга сьвету, дагаджальны ад пачатку й да канца камуністычным прайдзісьветам гандаль наблізаўся да канца ды меў быць змацаваны подпісамі, тады, ідучы на сустрач жаданьням свайго народу, прэзыдэнт Паўдзённае Карэі Сынман Ры наважыў актыўна супроцьставіцца змове супраць ягонага краю. З гэтай мэтай ён аддаў загад вызваліць паўночна-карэйскіх ваеннапалонных - антыкамуністых. Карэйскі народ з гарачым падтрыманьнем сустрэў сваіх вызваленых суродзічаў-антыкамуністых ды даў ім магчымы прытулак. Шмат вызваленых дабраахвотна ўлучылася ўжо ў паўдзённакарэйскую армію, каб збройна змагацца супраць чырвоных панявольнікаў іхнае бацькаўшчыны, каб вярнуць незалежнасьць усяму краю.

Але накш паставіліся да гэтага заходнія палітыкі на чале з палітычным ліхвярнікам Чэрчылем, які ў свой час з непераўзыйдзёным цынізмам заявіў, што на карэйскія справы трэба глядзець не карэйскімі вачыма. Гэта азначала, што слабейшымі могуць спэкуляваць дужэйшыя, залежна ад собскіх патрэбаў. І гэта быў адзін з наймацнейшых удараў па яшчэ няўмерлай, тлеючай веры паняволеных у сваё вызваленьне, па веры загрожаных камуністычным нападам народаў — захаваць сваю незалежнасьць праз дапамогу дэмакратычнага сьвету.

Сяньня Чэрчыль абураецца, што карэйцы глядзяць на свое справы собскімі вачыма, што ўрад Паўдзённай Карэі пратэстуе

(Канец на 2-ой бал.)

### УВАЗЕ НАШАЕ ЭМІГРАЦЫІ

Паведамляем, што ад **першага ліпеня** г. г. адрыс **Галоўнае Управы БАЗА, Рэдакцыі газэты „Беларус"** і **Сакратарыяту Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва** зьменены на:

**385 Alabama Ave. Apt. 17, Brooklin 7, New York.**

Просім скіроўваць усю карэспадэнцыю да гэтых установаў на згаданы новы адрыс.

# МУЖНАСЬЦЬ І АДСТУПСТВА

й актыўна супроцьставіцца дагаджальным для камуністых умовам замірэньня. З прычыны вызваленьня ваеннапалонных-антыкамуністых Чэрчыль ад імя ангельскага ўраду паслаў ноту пратэсту Сынману Ры, у якой называе ягоны ўчынак зрадаю. Сьледам за Чэрчылем і бальшыня ангельскіх газэтаў піша пра зраду Сынмана Ры ды патрабуе ўжыць аж надзвычайныя захады супраць паўдзённакарэйскага ўраду. Гэтак сябелюбныя ангельцы, упрогшыся ў дыпляматычныя настырлівыя залёты перад бальшавіцкай Масквой, цюкаюць ды пагражаюць тым, хто наважыў у няроўным змаганьні здабыць адабраную свабоду.

Ня прымусілі чакаць на сябе й прыхільнікі капітулянцкага пагадненьня з камуністымі з Гасподы ЗН. Генэральны сакратар ЗН Гамэршыльд зь дзіўным пасьпехам заявіў, што асуджае ўчынак Сынмана Ры. З колаў ЗН навет пагражаюць, што калі перамовы ў Карэі будуць сарваныя, дык шэраг дзяржаваў адмовяцца браць удзел у змаганьні з камуністымі ў Карэі. Які дзіўны пасьпех, каб дагадзіць ворагу!

А чаго варты хоць той факт, што ўжо напрацягу колькіх тыдняў ці мала заходніх палітыкаў, а за імі й безьліч газэтаў аддаюць сваю энэргію ганебнай справе, карыснай адно для камуністычных нападнікаў. Яны, і большыя й меншыя, і ведамыя й няведамыя — занятыя сяньня тым, каб давесьці сьвету, што камуністыя жадаюць без адкладу зрабіць замірэньне й толькі адзіная перашкода гэтаму — паводзіны паўдзённакарэйскага ўраду. Гэтак ствараецца й „грамадзкая думка", патрэбная для камуністых.

Нас ня дзівіць, калі маскоўскія газэты называюць вызваленьне ваеннапалонных „правакацыйным манэўрам" ды аднаўляюць свае напады на ЗША. Нас ня дзівіць, што радыё кітайскага камуністычнага ўраду, відаць маючы на ўвазе галоўна Ангельшчыну, зварачаецца аж да сусьветнай грамадзкай думкі ўзьдзеяць на ЗША, каб яны прымусілі паўдзённакарэйскі ўрад зьвярнуць у лягеры „скрадзеных паўночнакарэйскіх ваеннапалонных". Нас ня дзівіць патрабаваньне камуністых, каб саюзьнікі прымусілі ўрад Паўдзённае Карэі датрымаць умовы замірэньня, калі яно будзе падпісанае.

Але нас дзівіць тое, што Чэрчыль ў Гасподзе Грамадаў ангельскага парляманту заявіў: „Мы не абавязваліся завяваць усю тэрыторыю Карэі й перадаць яе спадару Сынману Ры". Нас дзівіць гэтая заява, як беспардоннае адступства ад праклямаванай у свой час ЗН ідэі супраціву камуністычным нападнікам. Гутарка йдзе не пра заваёву ўсяе Карэі, а пра зварот народу ягонай сувэрэннасьці ды, праз гэта, пра датрыманьне наважнасьці сьвету бараніць лёс дэмакрацыі ў сьвеце.

Дзе былі ЗН, дзе быў Чэрчыль, калі камуністыя Паўночнай Карэі мусам улучылі ў сваю армію дзясяткі тысячаў палонных з Паўдзённай Карэі? Чаму ні тады, ні сяньня ніхто й словам пра гэта не абмовіўся? Чаму да слыху й разуменьня заходніх палітыкаў не дайшоў роспачны крык паўдзённакарэйскіх дэманстрантаў — „Дайце нам аб'еднаную Карэю"!

Чаму зь ледзянай нячуйнасьцяй пакінутая адзіная, заплачаная жыцьцямі палеглых у змаганьні за свабоду бацькоў, просьба карэйскіх школьніцаў — „Не выдавайце нас камуністым"!?

Чаму вызваленьне Сынманам Ры палонных - антыкамуністых называюць зрадай?

Усё гэта не выпадкова й мае адзіную прычыну — сьмехуготдную „зьмену" палітыкі Масквы, ды неўтаймаванае жаданьне за ўсялякую цану, хоць на колькі гадоў, паводле заявы Чэрчыля, купіць у Масквы супакой. Спадзяваючыся на гэта й прыйшоў заходні сьвет да адступства ў змаганьні за ўжыцьцяўленьне прагалошанай ім мэты — супраціву камуністычнай агрэсіі ў Карэі.

Капітулянцкай змове ЗН з камуністычнымі нападнікамі карэйскі народ супрацьставіў мужнасьць змагацца за свой лёс.

Хто хоць адну часіну быў паняволены камуністамі — той разумее й высака цэніць наважнасьць паўдзённакарэйскага прэзыдэнта.

Мы цалкам згодныя з сэнатарам МэкКарты, які заявіў:

— Усе свабодалюбныя народы вітаюць акт Сынмана Ры.

**Я. М.**

М. Кургановіч.

# Камунізм нельга паустрымаць - яго трэба зьнішчыць

## „Сіла агню"

Аднэй з найвялікшых памылкаў, у палоне якіх знаходзяцца навет тыя амэрыканцы, якія паважна рыхтуюцца да зьнішчэньня бальшавізму, сярод іх бальшыня кіраўнікоў арміі ЗША, — падчырквае ў сваёй кнізе „Паўстрыманьне ці вызваленьне" Джэмс Бэрнгэм, — гэта пагляд, быццам, урэшце рэштаў перамогу вырашыць „большая сіла агню".

Сіла агню, бясспрэчна, надзвычай паважная справа, але яна вырашае адно паасобныя баі. Уся-ж гісторыя навейшых часоў сьветчыць якраз пра тое, што вялікія баі, не гаворачы ўжо аб войнах, вырашае не вялікая сіла агню, а якраз правільная палітыка.

Таму, у змаганьні супраць бальшавізму, — на думку Бэрнгэма, — шмат важнейшых за добрую зброю фактар гэта — правільнае й наважнае выступленьне за вызваленьне народаў ды пацьверджаньне прынцыпаў гэткае палітыкі пры кажнай зручнай нагодзе ня толькі словамі, але й чынамі. Наагул, у аснову ўсяе палітыкі трэба пакласьці аксыёму, што, бяз розьніцы, якім спосабам вядзецца змаганьне, — удача будзе асягненая толькі тады, калі канчальнаю мэтаю гэтага змаганьня будзе перамога, г. зн. поўнае зьнішчэньне ворага, а не, — як цяпер думае Захад — адно паўстрыманьне яго на нейкі час.

Далейшы высnaў — гэта тое, што й прапагандная вайна павінна быць накіраваная да гэтай вырашальнай мэты — поўнага зьнішчэньня ворага, а не адно да залагоджаньня яго. Найвялікшая памылка ўсяе прапаганды ЗША, — кажа Бэрнгэм — гэта тое, што яна вучыць народы „любіць амэрыканцаў". Дзеля гэтае мэты кіраўнікі амэрыканскае прапаганды імкнуцца заліць вольныя краіны сьвету літаратурай пра тое, як добра жывуць амэрыканцы, якія ў іх кватэры, самаходы й г. д., а „Голас Амэрыкі" нясупынна апавядае народам за зялезнай заслонай, што Амэрыка — краіна нязвычайна міралюбная й зусім ня хоча ніякае вайны. Ці-ж запраўды яны, гэтыя нашыя кіраўнікі, — пытаецца аўтар — думаюць, што паняволеныя народы палюбяць нас якраз за тое, што мы ня хочам у ніякім выпадку ваяваць, а гэтым самым — дапамагчы ім вызваліцца?

Пакуль палітыка ЗША ня зьменіцца ў самых асновах, пакуль канчальнай ейнай мэтай ня будзе зьнішчэньне бальшавізму, кажная прапаганда будзе бяз выніку, бо паняволеныя народы зусім ня цікавяцца, колькі, прыкладам, зарабляе амэрыканскі фармер, а цікавіцца адным — ці хоча Амэрыка ўстаць у іхнай абароне, ці дапаможа яна ім вызваліцца ці не, ці маніцца яна зрабіць хоць што-колечы, каб дапамагчы ім скінуць панявольніка?

Яшчэ горш, — дадае аўтар, — тое, што не зьмяняючы палітыкі ў дачыненьні да згаданае справы грунтоўна, з карэньнем, амэрыканцы часам вельмі лёгкадумна бяруцца за рэчы, якія заместа дапамогі могуць спрычыніцца адно да вялікае небясьпекі паняволеным народам. У сувязі з гэтым аўтар прыгадвае словы выгнаньніка — прадстаўніка аднаго з паняволеных народаў Сярэдняе Эўропы, што „нешта трэба рабіць, каб ратаваць мой народ ад зьнішчэньня"...

Дык вось, некаторыя амэрыканскія арганізацыі й дамаўляюцца, быццам, з паасобнымі выгнаньнікамі, каб тыя ўпотайкі вярталіся ў свае краіны, вялі там прапаганду, наладжвалі радыё-сувязь і г. д.

Людзі, якія прынялі-б гэткую прапанову, калі-б яна, запраўды ім рабілася, — кажа Бэрнгэм, — маглі-б стацца адно прычынаю сьмерці вялікае колькасьці сваіх суродзічаў, найчасьцей удзельнікаў паважных рухаў апору, суродзічаў, якія ў добрай веры імкнуліся-б ім дапамагчы ці ўвайсьці із імі ў паразуменьне.

Гэткімі спосабамі ворага перамагчы немагчыма. „Ніводная ізаляваная група балтыйцаў, — кажа Бэрнгэм, — казакаў ці кітайцаў ня зьнішчыць бальшавіцкага ладу. Дасягнуць гэтага, скінуць панявольніка патрапіць толькі належная палітыка. Палітыка-ж вызваленьня можа мець удачу толькі тады, калі яна наважна й шырока разбудаваная й патрапіць ахапіць цэлыя народы й нацыі, а не адзінкі, адным словам, калі мэтай ейнай будзе: „вызваленьне, а не субвэрсія".

Дзеля гэтага ужо трэба пачаць арганізоўваць выгнаньнікаў, да таго-ж у магчыма шырокіх памерах, вельмі павольна, асьцярожна й руплiва працягваючы пазьней ніткі гэтае арганізацыі й за зялезную заслону. Адначасна, дзеля пацьверджаньня сваіх плянаў, ЗША павінны былі-б пачаць пакрысе адмаўляцца ад прызнаньня камуністычных урадаў, якія ўсёроўна-ж не зьяўляюцца запраўднымі прадстаўнікамі паняволеных народаў, ды абвяшчаць экзыльныя ўрады ці нацыянальныя камітэты некаторых народаў „запраўднымі прадстаўнікамі". Трэба, — піша Бэрнгэм, — выяўляць прызнаньне згаданых экзыльных народаў паважнейшымі спосабамі, належнымі дыпляматычнымі із імі дачыненьнямі, дапамогаю у матар'яльнай галіне й ахвяраваньнем ім усяго таго, што маюць іншыя прадстаўнікі прыязных нам народаў — хаўрусьнікаў.

Аўтар падчырквае, што ў Амэрыцы трэба падтрымліваць думку аб тымчасовасьці паняволеньня Масквою шматлікіх народаў, думку пра тое, што яны ня маюць свае волі й незалежнасьці адно пакуль над імі стаіць панявольнік, што іхнае сучаснае палажэньне эпізадычнае, а вызваленьне, наадварот, зьяўляецца няўхільным фактам. Ён кажа далей, што ні водзін народ ня можа змагацца за сваю свабоду, калі ня мае свае арміі. Таму трэба, неадкладаючы, пачаць арганізаваць малыя ці большыя выгнаньніцкія арміі, бяз розьніцы ці падпарадкаваныя яны будуць НЭЙТО ці збройным сілам ЗША.

Калі гэткімі мерамі будзе створанае перакананьне, што ЗША паважна рыхтуюцца да вызваленьня народаў усімі магчымымі для іх спосабамі, аж да пасыланьня сваіх адмысловых кур'ераў за зялезную заслону улучна, тады ўжо трэба будзе ўважліва наладжваць сувязь і з самымі паняволенымі народамі, паступова, але нясупынна яе пашыраючы.

Аднак, яшчэ перад тым, як гэтая сувязь будзе наладжаная, — кажа Бэрнгэм, — сама падрыхтоўка да яе патрапіць у вялікай меры падарваць стабільнасьць маскоўскага ладу... Што-ж магло-б лепш пахіснуць становішча Крамля, калі ня ўдзел прадстаўнікоў паняволеных народаў у штабе НЭЙТО, калі ня маршы вайсковых аддзелаў паняволеных народаў із сваймі нацыянальнымі й вайсковымі сьцягамі вуліцамі сталіцаў Захаду, калі ня весткі, што вольная вайсковая адзінка якога-колечы з гэтых народаў заняла, прыкладам, важнае ўзвышша ў Карэі, калі не паведамленьне, што ўнівэрсытэты вольнае Эўропы скончылі тысячы маладых выгнаньнікаў ці ўцекачоў з за зялезнай заслоны, ці што вольныя прадстаўнікі паняволеных бальшавікамі народаў зь вялікімі гонарамі былі прынятыя ў Вайтголе Лёндану, на Кэ д'Орсэ ў Парыжы або ў Белым Доме Вашынгтону?

(У наступным нумары апошні разьдзел — „Канчальная мэта — свабода усім народам).



В. Нануашвілі.

# Ваенны патэнцыял паняволеных народау

Гаворачы вайсковаю моваю, памінаючы бясспрэчна рабавальную палітыку Саветаў у дачыненьні да паняволеных народаў, кажны зь іх меў па той бок фронту й належныя кадры й належны апарат дзеля поўнага разьвіцьця сваіх збройных сілаў і вайсковых намаганьняў з моманту перакрочаньня межаў свае собскае прасторы.

Факт гэты выразна сьветчыць, што ўжо ў першым этапе вайны будзе зусім магчыма арганізаваць поўныя вайсковыя кадры згаданых народаў.

Сяньня, як довад супроць гэтых магчымасьцяў, шмат хто прыгадвае факт, што Саветы масава перасяляюць жыхарства з прастораў паняволеных народаў у глыбіні Расеі.

Гэта праўда. Бо наагул дзяржавы, якія змагаюцца за панаваньне над сьветам, ад першых дзён змаганьня за згаданую справу, пачалі фізычнае вынішчэньне паняволеных народаў. Масавыя перасяленьні жыхарства — гэта якраз адзін із спосабаў хутчэйшага дасягненьня мэты гэтага змаганьня.

Што-ж зрабіла у гэтай справе Расея?

**Ваенны патэнцыял паняволеных народаў**

Неабходнасьць выкарыстоўваньня толькі расейскіх сілаў у шмат якіх аддзелах арміі, павялічвае яшчэ працэнт паняволеных народаў у жывой масе перадавых элемэнтаў хвалі, якая змагаецца. Агульны абраз укладаецца для СССР яшчэ шмат горш, калі мы дадамо сюды ваенныя сілы народаў, нядаўна Саветамі паняволеных.

Гэты факт натрабуе ад супраціўнікаў Расеі прыгатаваньня й ужыцьця супроць кіненай на змаганьне масы чырвонай арміі адмысловай тактыкі.

Якую-ж запраўдную ваенную вартасьць могуць мець сілы паняволеных народаў у выпадку будучае вайны?

За параўнальна - арыентацыйную норму вышыні ваенных магчымасьцяў дзеля азначаньня здольнасьці да ваенных намаганьняў паняволеных народаў, можна ўзяць ваенныя намаганьні балканскіх краінаў, бо згаданыя краіны найбліжэй стаяць паводле свае пабудовы й складу да сяньняшняга складу паняволеных народаў.

У часе зраўнаважанага супакою, кажнае з балканскіх гаспадарстваў мела на адзін мільён жыхарства адну дывізію пяхоты, ня лічачы кавалерыйскіх аддзелаў ды іншых спэцыяльных фармацыяў.

У часе кажнае вайны, калі гэтыя гаспадарствы мелі магчымасьць мравесьці нармальную мабілізацыю (Балканская вайна й 1-ая Сусьветная вайна), яны выстаўлялі па тры дывізіі пяхоты на мільён жыхарства.

Паняволеныя народы, на самай справе, даканалі ў часе апошняе вайны, у рамах СССР, шмат больш. Але тарнуючы навет балканскую норму — тры дывізіі пяхоты на мільён жыхарства, паводле афіцыйнае статыстыкі 1939 году, на 71 мільён жыхарства мы павінны былі-б атрымаць 213 дывізіяў.

Арганізацыя згаданых сілаў магла-б быць праведзеная двума пасьлядоўнымі этапамі. 1 этап — арганізацыя вайсковых сілаў паняволеных народаў паза межамі собскага краю, з палонных, што апынуліся па баку ворагаў СССР. 2 этап — поўнае разгарненьне вайсковых сілаў пасьля ўваходу на прастору собскае краіны, апіраючыся на кадры, створаныя за межамі.

У галіне арганізацыі вайсковых сілаў у першым этапе свайго разьвіцьця, апошняя вайна дала нам вельмі цікавыя дазнаньні, гэта — вынікі адмоўнае нямецкае палітыкі ў дачыненьні да вызвольных рухаў паняволеных народаў.

Бальшыня палонных, што належалі да паняволеных народаў, была трыманая ў лягерох ваеннапалонных. Частка іхная прыдзялялася беспасярэдня да адзінкаў, на кшталт „О. Т.", або „Speer" і толькі зь вельмі невялікае часткі палонных былі арганізаваныя адмысловыя нацыянальныя батальёны, да таго-ж ніколі не спалучаныя ў большыя вайсковыя аддзелы.

Аднак, з палонных розных нацыянальнасьцяў усё-ж было арганізавана столькі батальёнаў, што яны маглі-б скласьці колькі дывізіяў пяхоты.

Гаворачы павайсковаму, нягледзячы на бясспрэчна вынішчальную палітыку, тарнаваную ў дачыненьні да паняволеных народаў, кажны зь іх меў па той бок фронту зусім дастатковую кадру й апарат дзеля поўнае разбудовы свае ваеннае моцы й змагарных намаганьняў, якую можна было-б пачаць з момантам уваходу на тэрыторыю собскае краіны.

Згаданы факт зусім пераканальна сьветчыць аб тым, што ўжо ў першым этапе вайны можна будзе арганізаваць поўныя вайсковыя кадры паняволеных народаў.

Сяньня, як довад супроць гэтых магчымасьцяў прыгадваецца тое, што Саветы масава перасяляюць жыхарства з прастораў, займаных паняволенымі народамі.

Гэта праўда. Дзяржавы, якія змагаюцца за панаваньне над сьветам, ад першых дзён змаганьня на гэтым полі ўзяліся за фізычнае народагубства ў паняволеных імі краінах. Масавае перасяленьне жыхарства якраз і ёсьць адным із сяродкаў дзеля асягненьня згаданае мэты.

Што-ж зрабіла ў гэтай справе Расея?

Перад самай 2-ой Сусьветнай вайной, яна пачала арганізацыю новае прасторы ваеннае прамысловасьці ў раёне Уральскіх гораў і Заходняга Сібіру. Памінаючы гэта, яна ўзялася й за пабудову вялікае колькасьці новых людзкіх паселішчаў уздоўж узьбярэжжа Лаўночнага Акіяну. Мэтаю гэтае акцыі было:

Перанясеньне ваеннае прамысловасьці далей ад абсягу дзейнасьці тагачаснага лятунства.

Стварэньне новае прасторы, заселенай масай перасяленцаў, якую лягчэй было-б русыфікаваць.

Стварэньне новае запаснае мабілізацыйнае прасторы дзеля ўнезалежненьня Далёкага Усходу ад Эўрапэйскай Расеі.

Жыхарства гэтых новых асяродзьзяў складалася з нармальнага для ўсяе Расеі проценту паняволеных народаў. Але мэта згаданае акцыі была ў вялікай меры няўдалая з гэткіх прычынаў:

1. Перанясеньне прамысловых асяродзьзяў паза абсяг варожага лятунства даваў добрыя вынікі адно ў пару перад 2-ой Сусьветнай вайной. Сяньня-ж на зямлі няма месца, недасяжнага для лятунства ворага.

2. Аддаленьне прамысловых раёнаў ад прасторы ваенных дзеяньняў дае сяньняшняму лятунству нагоду цалкам адрэзаць гэтыя раёны ад арміі і фронту пры дапамозе зьнішчэньня чыгункавае сеткі (падрабязныя выясьненьні далей).

3. Як спосаб дзеля засяленьня, згаданая акцыя Саветаў магла-б даць добрыя вынікі адно ў другім пакаленьні, а запраўды — толькі ў трэцім.

Сяньня, для арганізацыі збройных сілаў паняволеных народаў абсалютна ўсёроўна, адкуль прыйдзе праз фронт да сваіх аддзелаў гэткі беларус, ці каўказец — з Беларусі, Каўказу ці Калымы ды Камчаткі.

Хто сутыкаўся ў жыцьці з гэтым пытаньнем, ведае, што згаданая справа зусім простая й ня гэткая складаная, як стараюцца яе прадставіць адкрытыя ці замаскаваныя ворагі вызваленьня народаў.

У другім этапе вайны, зараз пасьля ўваходу на прасторы гэтых народаў, можна будзе адразу пачаць поўнае разьвіцьцё іхнай мілітарнай сілы.

## II. Слабыя бакі СССР.

Якія-ж канкрэтныя стратэгічныя вынікі можа даць рацыянальнае выкарыстаньне сілаў паняво-

# Купальле

Высока ў небе Сонца Купала
Зямельцы і шчасьце і плод-
[насьць да рыць...

Сьвята Купалы ў Беларусі — адно з найбольш старадаўных, а разам із гэтым і найпрыгажэйшае й найбольш паэтычнае з усіх ведамых нам, беларускіх абрадавых сьвятаў.

Ні адзін народ на сьвеце не сьвяткуе, не ушаноўвае гэтак Купальле, — час, калі сонца найвышэй стаіць на небе, як беларусы. Бо сонца, якое дае жыцьцё ўсяму жывому, якое саграе й зямлю й людзей, было якраз найбольш улюбёным богам нашых продкаў. Паводле анімістычных паглядаў нашага народу яно спрадвеку ўцелаўлялася ў нашым краі у вобразе Ярылы-Купалы, які ператварае ўсю зямлю ў пышны, квітнеючы сад, поўны сьвятла й радасьці.

„Ой, на Купалу, на Купала
іграла сонца, іграла"...
(бел. нар. песьня).

З прыняцьцем хрысьціянства паганскае сьвята Купалы-Ярылы не загінула, а перайшло ў сьвята сьв. Яна-Івана, што супадала ізь ім у часе (24 чырвеня). Адгэтуль і назоў Івана-Купала, Яна-Купала.

Шчыльныя, непарыўныя сувязі народу-земляроба із прыродаю, захавалі гэткія-ж сувязі й з сіламі гэтае прыроды. Гэтак, Купала паводле народных верваньняў, ходзіць між людзьмі, дае ім парады, дапамагае ім у іхных клопатак.

„Ой, ішла Купала сялом, сялом..."

Думка кажнага земляроба накіраваная на плоднасьць зямлі, на добрую ўроду. Мець добры ўраджай — асноўная просьба, малітва селяніна. Жаданьне ўмаліць вышэйшую Моц, выпрасіць у Яе ўраджай, спрыяльнае надвор'е, спрычынілася да таго, што вобраз гарачага сонца — Купалы спалучыўся ў уяўленьні нашых продкаў з вобразам вагню, які ўсё ачышчае.

„Сягоньня ў нас Купала,
Сам Бог вагонь раскладаў,
Усіх сьвятых да сябе зваў.
Толькі няма Ільлі з Пятром.
Пайшоў Ільля — каля жыта,
Пайшоў жыта сьцерагчы"...
(нар. бел. песьня)

Гэтым самым тлумачыцца й ведамы звычай раскладаць у Купальскую ноч вогнішчы, скакаць праз вагонь, што было даўней магічна-заклікальнай функцыяй.

Бязрадны перад незразумелымі, магутнымі зьявамі прыроды, народ наш верыў некалі, што цёмныя сілы, варагі сонца, сьвятла й дабра, толькі й чакаюць, каб пашкодзіць яму, зьнішчыць ягоныя палі, ягонае збожжа... Ён верыў, што ў жыце ягоным хаваюцца й русалкі й злосныя ведзьмы, якія робяць у жыце „заломы" на загубу і ўроды й чалавека. Выганяць ведзьму з жыта вагнём сталася таму адным з найбольш пашыраных купальскіх звычаяў на Беларусі.

„А мы ведзму галаўнёю,
Каб у полі не лятала,
Ядранога жыта не ламала"...
(бел. нар. песьня).

Ды ня толькі агонь, але й усе расьціны набываюць у Купальскую ноч дзіўную магічную сілу. З гэтаю вераю у беларусоў спрадвеку быў зьвязаны звычай ірваць на Купальле зёлкі, краскі, віць зь іх вянкі, варажыць на іх.

„Купальле, дзеванькі, Купальле,
Дзеўкі зёлкі капалі".
(бел. нар. песьня)

Захавалася чароўнае народнае уяўленьне, што ў Купальскую ноч, адзіны раз напрацягу году, у недаступных гушчарох расьцьвітае агнявая кветка папараці, якая мае гэткую моц, што патрапіць зрабіць чалавека шчасьлівым, багатым і прыгожым на ўсё жыцьцё. Таму ў Беларусі вельмі пашыраны звычай хадзіць купальскай ночай у лес шукаць кветкі-папараці. Аднак, адважваюцца на гэта толькі вельмі сьмелыя, наважныя людзі, бо нячыстая сіла бароніць чароўную кветку й насылае на адважнага шукальніка розныя няшчасьці.

Красаваньне палёў, жыта, непарыўна вяжацца ў уяўленьні нашага народу й з расцьвітаньнем сям'і. Таму купальскае сьвята мае шмат звычаяў, зьвязаных з тэмаю каханьня, як завіваньне вянкоў, пушчаньне іх на ваду, варажба на вянкох, на вадзе, на зёлках, асабліва-ж купальскія вогнішчы, скачачы праз якія, хлопцы намагаюцца злавіць дзяўчыну, якая, як спрадвеку верыць наш народ — суджаная яму лёсам.

Усе згаданыя купальскія абрадавыя матывы памастацку адлюстраваныя ў ведамым нашым творы „На Купальле", напісаным таленавітым маладым беларускім паэтам М. Чаротам і пакладзеным на музыку заснавальнікам нацыянальнае беларускае музыкі камп. У. Тэраўскім. Упяршыню твор гэты быў пастаўлены на сцэне Менскага Гарадзкога Тэатру ў 1922 г. стаючыся запраўдным мастацкім здарэньнем. Лёс аўтараў „Купальля" быў, аднак, вельмі трагічны. І паэта й кампазытар загінулі, а сам твор трапіў у бальшавіцкі архіў забароненых матар'ялаў. Толькі ў 1939 годзе зьявілася думка адшукаць і аднавіць гэтую прыгожую рэч, ведама, датарнаваўшы ейны зьмест да вымогаў савецкае ідэалёгіі. Перараблялі „На Купальле" бел. сав. паэты Броўка й Глебка, якія, аднак, пакінулі ў ім шмат Чаротаўскага. Музыку да новага „Купальля" пісаў ведамы кампазытар Туранкоў.

Ды доля ня была ласкавая й для гэтага твору. Бо сяньня і аб камп. Туранкове й аб ягоным творы — нічагуткі ня чуваць.

На эміграцыі, урыўкі з „Купальля" яшчэ праз нейкі час жылі. Іх даваў у сваіх пастаноўках папулярны ў Нямеччыне „Беларускі Тэатр Эстрады" ды самадзейныя, аматарскія сілы, што патрапілі паказаць „Купальле" вельмі прыгожа й натуральна на вольным паветры, пад цёмна-сінім зорным небам у 1946 годзе ў Рэгенсбургу. На жаль, тут ў Амэрыцы, мы нічога дагэтуль не зрабілі, каб ускрасіць нашыя чароўныя купальскія абрады, каб успомніць самым, ды паказаць чужым прыгожыя, багата-паэтычныя, поўныя незабыўных мэлёдыяў звычаі нашага старадаўнага Купальскага Сьвята.

**М. Куліковіч**

# Там, дзе сэрца Амэрыкі

(Беларуская экскурсія ў Вашынгтон).

Як і ў мінулым годзе, Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў ЗША наладзіла было й сёлета цікавую экскурсію беларусаў, як моладзі, гэтак і старэйшых, не на Ніягару, як летась, але ў Сталіцу ЗША — Вашынгтон. Трэба зазначыць, што як леташняя, гэтак і сёлетняя экскурсія была вельмі добра арганізаваная, што, ведама, трэба заўдзячваць экскурсыйнаму камітэту ў складзе старшыні ЗБМ сп. М. Тулейкі, сп. Юркі Станкевіча, сп. Ніхаёнка й Галіны Орса, якія шмат папрацавалі, каб і ў дарозе й самым Вашынгтоне усё пайшло гэтак спраўна й гладка, гэтак прадумана й арганізавана, як было.

З Кліўэленду арганізавалі экскурсію ў Вашынгтон сп. сп. М. Белямук і С. Карпіловіч. З Дэтройту быў на сёлетняй беларускай экскурсіі толькі адзін прадстаўнік — сп. Сэрдачэнка. Нью-Ёркцаўжа й Саўт-Рывэрцаў прыехала ў Вашынгтон два поўныя аўтабусы.

Сёлетняя экскурсія была нязвычайна цікавая ня толькі з эстэтычнага, але й гістарычнага гледзішча, бо падвалінамі, асноваю сталіцы ЗША — Вашынгтону зьяўляецца амэрыканская гісторыя й Вашынгтон дзейнічае на амэрыканцаў якраз тым, што прыгадвае ім здарэньні мінулых стагодзьзяў, узбуджаючы патрыятычныя пачуцьці, на якія гэтак мала месца ў штодзённай гарачцы амэрыканскага жыцьця.

Вашынгтон — гэта праява, сымбаль жыцьця не паасобных амэрыканцаў, а жыцьця усяе Амэрыканскае Нацыі, для якое магутны хорам Капітолю — ня толькі выраз няўміручага характва, але й сымбаль ейнае дзяржаўнасьці.

Будаўніцтва Вашынгтону запраўды нязвычайна прыгожае й велічнае у сваёй шляхотнай, белай прасьціні. Урачысты Капітоль, клясычныя музэі, магутныя помнікі, старыя цяністыя дрэвы, зялёныя сенажаці, — усё дыхае велічай і прыгадвае тых, што тут жылі й тварылі — Вашынгтона, творцы Амэрыканскае Рэспублікі й ягоных супрацоўнікаў і Лінкольна — які выратаваў яе ад загубы, а зь ім і тых, хто яму ў гэтым дапамагалі. Таму й Капітоль (будынак Кангрэсу), і Белы Дом, і іншыя будоўлі Вашынгтону поўныя патрэтаў ды мрамарных статуяў вялікіх людзёў Амэрыкі, а раскіненыя на ўзгорках Вірджыніі, за ракою Патамак Арлінгтонскія Вайсковыя Могілкі хаваюць столькі вялікіх для кажнага шчырага амэрыканца іменаў.

Не-амэрыканцам, асабіва тым з нас, якія жывуць у перанаселеных прамысловых асяродзьзях усходняга ўзьбярэжжа Амэрыкі зь ягонымі брудам, гаручковаю пагоняю за далярам, ды крыклівым, неахайным жыхарствам, — Вашынгтон адчыняе вочы на запраўдную Амэрыку, тую Амэрыку, якой яна мелася быць у лятуценьнях ейных творцаў ды ёсьць запраўды й сяньня, дарма што гэтага ня відаць за крыклівымі рэклямамі, за мяшчанскім дабрабытам амэрыканскае штодзённасьці.

Першым аб'ектам, які нашая экскурсія наведала была ў Вашынгтоне, быў Белы Дом — сядзіба Прэзыдэнтаў ЗША. Тых з нашых суродзічаў, якім даводзілася бачыць палацы эўрапэйскіх каралёў ці толькі князёў — Белы Дом задзівіў сваёй нязвычайнай сьціпласьцяй. Праўда, й тут шмат цэнных патрэтаў, старое мэблі, дарагіх дываноў і тканінаў, але агулам Белы Дом ня можна навет параўнаць з залатою пышнасьцяй сялібаў эўрапэйскіх манархаў. І ў гэтым, бясспрэчна, таксама глыбокі сымбаль запраўднае Амэрыкі.

З Белага Дому нашыя наведвальнікі накіраваліся ў Капітоль.

Пасьля сьціпласьці Белага Дому, Капітоль — будынак амэрыканскага Парлямэнту, сядзіба народных прадстаўнікоў — задзіўляе сваёй велічай. Ён належыць, бясспрэчна да найпрыгажэйшых будоўляў сьвету. Наведвальнікаў задзіўляе самперш ягоная шляхотная веліч і чароўняя прапарцыянальнасьць. Пасярэдзіне будынку, на падставе з магутных ды гонкіх калёнаў з белага мрамару высіцца велічны мрамарны купал, венчаны статуяй узброенае Свабоды. У сярэдзіне будынку — безьліч статуяў вялікіх людзей Амэрыкі й вялізарных сьценных малюнкаў, прысьвечаных важнейшым здарэньням з гісторыі Амэрыкі. Вялікае ўражаньне пакідаюць на наведвальніках залі, дзе творыцца амэрыканская палі-

(Канец на 4-ай бал.)



**Беларускія экскурсанты на сходах памятніка Лінкольна.**

леных народаў у будучай вайне? Перад тым, як займацца абмяркаваньнем гэтае справы трэба пазнаёміцца з магчымымі намерамі ворага паняволеных народаў.

Сяньняшняе палітычнае палажэньне зайшло гэтак далёка, што зусім выразна выявіліся ня толькі агульныя намеры й мэты СССР, але навет і паасобныя этапы іхнага ўжыцьцёўленьня.

Першыя мэты ваеннае акцыі СССР складаюць:

Апанаваньне ўсёй Заходняй Эўропай.

Захоп пратокаў Басфору й Дарданэлаў і замкніцьцё Чорнага мора.

Доступ да Пэрсыдзкае затокі.

Доступ да Александрэцкае затокі.

Усе гэтыя мэты, за выняткам апанаваньня Заходняй Эўропы, — старыя лятуценьні Расеі. Але навет цалкам дасягнуўшы ўдачы у усіх сваіх лятуценьнях, цяжкога становішча валадары Расеі не пазбыліся-б, бо адразу-б выплылі на ўзьверх гэткія слабыя месцы гэтага гаспадарства:

1. Вялікае расьцярушаньне сілаў ад Ціхага Акіяну да Атлянтыцкага. Магчымасьць прыняць бой у кажным месьце гэтае прасторы.

2. Небясьпека выйсьця з пад апекі Савецкае дзяржавы ўсяе прасторы паўночных канцэнтрацыйных лягероў, калі яны ня будуць ахоўвацца дастаткова вялікаю збройнаю сілаю.

3. Неабходнасьць абараняць усе занятыя савецкімі войскамі заходнія дзяржавы вылучна арміямі СССР, бо мясцовыя элемэнты пазбудуцца ахвоты змагацца за Саветы ад першых-жа дзён знаёмства з савецкімі захопнікамі.

4. Неабсяжнасьць прасторы СССР, дзеля чаго ніякае лятунства не патрапіць абараніць краіну ад сыстэматычных зьнішчальных налётаў ворага, бяручы да таго-ж на ўвагу сваеасаблівую уразьлівасьць Расейскае прасторы што да акцыі варожага лятунства.

5. Нязвычайная рэдкасьць чугучнае сеткі СССР, што адразу-ж спрычыніцца да спыненьня чыгуначнага руху ад узьбярэжжаў Ціхога Акіяну да заходніх межаў Польшчы й Румыніі ўжо на працягу першых дзён вайны й да таго-ж навет лятунствам, ня лепшым і не мацнейшым ад лятунства 1945 году.

Згаданая чыгуначная сетка мае так мала вузлоў, што зусім не патрапіць зьмяняць гатунак транспартаў ужо выпушчаных у рух. Гэтая малая колькасьць чыгуначных вузлоў дазволіць закаркаваць чыгуначныя лініі, навет не парушаючы станцыяў, адно бамбардуючы чыгунку ў чыстым полі. Расейская чыгунка не магла даць сабе рады з патрэбамі войска яшчэ ў дні Першай і Другой Сусьветных войнаў, сяньня-ж яна яшчэ слабейшая, бо дагэтуль не направіла шмат, спрычыненых ёй апошняй вайной, зьнішчэньняў.

6. Немагчымасьць адцяжыць чыгункавы транспорт СССР ужыцьцём транспарту самаходавага з прычыны вялізарных прастораў і кліматычных умоваў Савецкае Краіны.

7. Лёгкасьць разбурыць савецкую чыгункавую сетку й адцяць расейскія прамысловыя раёны ад усіх франтоў, што робіць непатрэбным бамбардаваньне варагам самых згаданых асяродзьзяў.

8. Немагчымасьць дзеля гэтых самых прычынаў дастачаць сыравіну прамысловым асяродзьзям паняволеных Расеяй гаспадарстваў.

Усе гэтыя умовы складаюцца на тое, што тэхнічнае азброеньне сілаў СССР будзе найлепшае напачатку вайны, у адваротнасьць дзяржавам Захаду, якія, пачынаючы змаганьне, звычайна, бываюць слаба азброеныя, а дазбройваюцца на працягу вайны.

(Працяг будзе)

# Безнадзейнасьць

(Праўдзівае здарэньне)

З найлепшым маім сябрам я спаткаўся увесну 1939 году. Нашая прыязьнь налічвала ўжо шмат гадоў. З Янкам Навіцкім мяне вязала бестурботнае маленства, мілыя й дарагія школьныя гады, вяселае юнацтва й студэнства. Вязау нас і ціхі цудоўны Сож з ягонымі ласкавымі зяленымі берагамі. Мы любілі Сож і ўвесь вольны час праводзілі на рэчцы. У гарачыя сонечныя дні мы купаліся, потым песьціліся на чыстым пясочку, апальваючы сонцам маладыя целы. Або плавалі на чоўне, гультаявата перабіраючы веслам. Ужо далека за горадам выбіралі ціхую спакойную затоку й цэлымі гадзінамі сядзелі з вудамі. У самую сьпеку мы любілі пераплысьці на правы бераг рэчкі, на так званы Мельнікау Луг, і там у цяню маладога дубняка, сярод пахучых мурожных травау, аддацца маладым марам.

Янка быў здольны, ён добра вучыўся й нявычайна захапляўся спортам. Па заканчэньні сярэдняе школы перад ім не стаяла ніякіх перашкодаў да паступленьня у любую вышэйшую навучальную установу. Сацыяльнае становішча майго сябры цалкам адпавядала запатрабаваньням савецкае палітыкі. Дзед ягоны быў чыгуначнікам, а бацька працаваў на заводзе токарам па металю.

Калі прышлося выбіраць вышэйшую школу, Янку моцна пацягнула у Мэдычны Інстытут, а я захапіўся вельмі моднымі ў той час тэхнічнымі ведамі. Тут нашыя дарогі крыху разышліся, але прыязьнь паміж намі не паменшала. Студыявалі мы у Менску, таму вельмі часта сустракаліся. Янку калегі-студэнты любілі. Заўжды вясёлы й жыцьцярадасны ён даваў добрыя парады у студэнскіх справах і ахвотна дапамагаў сябром у бядзе.

Па заканчэньню Мэдычнага Інстытуту ў ліку першых, маладому лекару Навіцкаму была адчыненая дарога у асьпірантуру, але яму хацелася аддаць свае веды тым, хто іх патрабаваў. Навіцкі пажадау працаваць у раеннай больніцы роднай Гомельшчыны. Добрасумленныя адносіны да сваіх абавязкаў і чуласьць да хворых забясьпечылі маладому доктару справядліва заслужаны аўтарытэт у раёне.

У прыватным жыцьці доктар любіў вечаркам пагутарыць і абмяняцца думкамі із старым настаўнікам Шахлевічам, які ўжо больш дваццаёх пяці гадоу працаваў у школе на адным мейсцы. Ён добра знаў вясковае жыцьце, любіў школу ды захапляўся краязнаўствам. На працягу шмат год Шахлевіч запісвау народныя беларускія песьні, казкі, прыказкі, абрады й звычаі мясцовага жыхарства. У часы летняга адпачынку ён некалькі разоў браў удзел у экспэдыцыях дзеля вывучэньня помнікаў старасьвеччыны.

У трыццатых гадох, калі пачалася жорсткая расправа з „нацдэмаўшчынай", настаўніка Шахлевіча арыштавала НКВД, прычапіла яго да гэтак званай контррэвалюцыйнай арганізацыі і асудзіла на 10 гадоў лягеру. У мястэчку бяз усялякіх сродкаў да існаваньня засталася жонка настаўніка й трое дзяцей з кляймом „сямья ворага народу".

Доктар Навіцкі балюча перажываў арышт і ссылку суседа-настаўніка. Ён быў глыбака ўзрушаны той вялікай няпраўдай, якая была дапушчаная ў справе Шахлевіча й ягонае сямьі. Таму доктар палічыў сваім абавязкам дапамагаць чым толькі можна асірацелай сямьі. Праз нейкі час яму ўдалося уладзіць старшага сына настаўніка на працу на заводзе ў Гомелі.

У канцы 1937 года у жудасную ноч разгула яжоўшчыны, доктар Навіцкі быў арыштаваны й апынуўся ў падвалах Гомельскага НКВД. Яго абвінавачвалі ў сувязі з контр-рэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыяй, дапамозе ворагам народу і шкодніцтве на працы. Аж да дна выпіў горкую чашу зьдзекаў і мукаў добразычлівы й чулы да чужой бяды, доктар. Яго білі, трымалі некалькі разоў у карцары, пасылалі на канвэяр, патрабуючы прызнацца ў няіснаваўшых „злачынствах". Усё перанёс доктар, аднак „прызнаньня" не падпісаў.

Амаль праз паўтары гады пасьля арышту, калі Крамлеўскі уладар знашоў патрэбным і сваечасовым скінуць Яжова следам за мільённымі ахвярамі, доктара Навіцкага выпусьцілі на волю, адабраўшы падпіску аб неразгалошаньні таго, што ён бачыў і чуў у катоўнях НКВД.

І вось мы сустрэліся. Я не пазнаў майго дарагога Янку. Перада мною была чалавечая постаць згорбленая, змучаная, пасівелая, з глыбокімі моршчкамі на худым твары, з неспакойным паглядам. Мы прыселі пад клёнам і Янка расказаў мне сваю жудасную драму. Вось ужо тры месяцы, як ён шукае свайго шасьцігадовага сынка Косьціка. Пасьля арышту Янкі ягоная жонка была звольненая з працы у школе. Прастойваючы ў халодныя зімнія ночы пад сьценамі турмы, каб перадаць Янку жменю хлебных сухароў, яна прастыла, захварэла запаленьнем легкіх і памерла, а маленькага Косьціка забралі ў нейкі прытулак. Вось Янка й шукае свайго дарагога хлопчыка.

Разказау ён мне свае непераноснае гора й закашляўся. Буйныя слезы пакаціліся з вока. Левае вока яму выбілі на канвэяры следчыя. Ды тое, што засталося, хавала ў сваёй сіняй глыбіні нечалавечы жах, нясьцерпны боль ад страты дарагіх, жаль за стаптанае жыцьце... Левая шчака Янкі нэрвова дрыжэла...

Чым, якімі няведамымі словамі патраплю я усьцешыць майго дарагога Янку, адрадзіць у ягонай сьведамасьці хоць іскрачку надзеі на будучыню?

**В. К.**

# Беларусы - памяці свайго кампазытара

**Дарагія суродзічы!**

**Аб выданьні зборніка песьняў сьв. памяці кампазытара Міколы Равенскага пісаў ужо сп. Чопчыц у нумары 9 (33) „Беларуса“, а рэдакцыя газэты падала была ў гэтым-жа нумары канкрэтную прапанову аб складаньні фонду дзеля гэтае мэты.**

**Бязумоўна, выданьне гэткага зборніка было-б найлепшым довадам нашае пашаны да дарагога нябожчыка-кампазытара, якога мы ўсе так любілі, ды належнаю ацэнаю ягонае вялікае працы на ніве беларускае музычнае культуры.**

**Вось-жа Выдавецтва „Наперад“ бярэ на сябе ініцыятыву выдаць згаданы зборнік. У ім будуць зьмешчаныя беларускія народныя песьні, апрацаваныя Нябожчыкам, а таксама ягоныя собскія кампазыцыі, усяго каля 70 рэчаў. Гэткі сьпеўнік з багатым жанрам твораў, пачынаючы ад найпрасьцейшых да складаных паліфанічных, прадугледжаны для ансамбляў кажнага складу, патрапіць хоць часткава палагодзіць вялікую нястачу ў нас песеннай літаратуры, якая так балюча адчуваецца сяньня на эміграцыі. Сьпеўнік выйдзе пад тэхнічнай рэдакцыяй нашага ведамага кампазытара Алеся Карповіча, які ўжо ўзяўся з гэтую працу.**

**Зборнік будзе мець каля 140 бачыняў фармату вялікае васьмёркі (прыкладам як 24 нумар „Наперад“) і трэба прыкласьці ўсе стараньні, каб ён быў прыгожа й багата апрацаваны й з мастацкага боку. Выданьне, бясспрэчна, будзе зьвязанае з вялікімі коштамі, бо клішы на ноты вельмі дарагія, але мы моцна ўпэўненыя, што нашае грамадзтва й арганізацыі прыйдуць нам з выдатнай грашовай дапамогай дзеля ажыцьцяўленьня гэтага ганаровага заданьня ўсяе беларускае эміграцыі, бяз розьніцы куды-б іх няветлы лёс сяньня не закінуў. Кошт паасобнага экзэмпляру сьпеўніка складзе прыблізна пяць даляраў.**

**Вось-жа зьвяртаемся з гарачым заклікам-просьбай да ўсіх нашых суродзічаў, каму дарагая памяць камп. М. Равенскага й пашырэньне роднае песьні сярод сваіх, а прапаганда ейная сярод чужых, прыйсьці нам із дапамогаю ў гэтай справе у форме грашовых ахвяраў ці падпіскі на зборнік (пяць даляраў за паасобнік). Грошы просім слаць на адрыс: W. Sčečka, 19 Pl. Hoover, Louvain, Бэльгія. На гэты адрыс просім таксама пісаць у ўсіх іншых справах, зьвязаных із выданьнем згаданага зборніка.**

**На назоў, вокладку й мастацкае афармленьне зборніка твораў сьв. пам. камп. М. Равенскага абвяшчаецца конкурс. За прынятыя праэкты ўзнагародаю будзе дармовы паасобнік сьпеўніка. На падзагаловак прапануецца — „БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСЬНІ ДЛЯ МЯШАНАГА ХОРУ“.**

**Выдавецтва „Наперад“**

# ТАМ, ДЗЕ СЭРЦА АМЭРЫКІ

(Канец з 3-яй бал.)

тыка — Палата Прадстаўнікоў — найбольшая заканадальная палата сьвету — і меншая — заля Сэнату.

З Капітолю беларуская экскурсія накіравалася да Помніка Вашынгтону. Гэта-высачэзны абэліск з белага мрамара, найвышэйшая, як кажуць, масонская будоўля на сьвеце.

На гару, на вяршаліну абэліску, дзе ёсьць вакенцы, праз якія можна як на далані пабачыць увесь Вашынгтон і ваколіцу на дзясяткі кілямэтраў, можна ўзыйсьці, калі хто чуецца на сілах, па сходках, якіх налічваецца каля 900, або дастацца г. зв. элевэйтарам. Асабліва прыгожа выглядае згары рака Патамак, якая віецца, як вялізарная вужака, сярод зялёных узьбярэжжаў аж да сініх, далёкіх узгоркаў Вірджыніі.

Пасьля кароткага перапынку на полудзень, беларускія экскурсанты пайшлі наведаць Вашынгтонскія музэі й Нацыянальную Галерэю. На жаль, часу было мала й агледзіны былі вельмі павярхоўныя, аднак, нейкае прадстаўленьне аб культурным зьмесьце сталіцы ЗША яны, бязумоўна, далі. Асаблівае ўражаньне зрабіла на ўсіх Нацыянальная Галерэя, адна з найбольшых мрамарных будоўляў сьвету. Пабудавана яна ў велічным стылі, з вялізарнымі калёнамі з мрамару розных колераў, фантанамі, сажалкамі й зялёнымі нутранымі садамі ў кажным з крылаў будынку.

Абразы й скульптура, сабраныя ў Нацыянальнай Галерэі — пераважна ахвяры багатых прыватных зьбіральнікаў. Хоць калекцыі Галерэі ня можна параўнаць, скажам, да Парыскага Лювру, але яны даволі багатыя. Асабліва добра прадстаўленая ў Галярэі Італьянская школа з абразамі й рэзьбамі 14-18 стагодзьдзяў, ды інш., сярод якіх шмат абразоў гэткіх волатаў мастацтва, як Рафаэль, Тынтарэтті, Тыцыян, Рубэнс, Ван-Дайк і г. д.

Назаўтрае, добра адпачыўшы, усе паехалі зьведваць ваколіцы Вашынгтону — самперш помнікі Джэффэрсона й Лінкольна.

Помнік Джэффэрсона — аўтара амэрыканскае канстытуцыі, якая пачынаецца ведамымі словамі „Мы вызнаем незапярэчную праўду, што ўсе людзі створаныя роўнымі“..., пабудаваны, таксама як і ўсе блізу будоўлі Вашынгтону, з белага мрамара, а вялізарная постаць Джэффэрсона вылітая з бронзы.

Памятнік Лінкольна пабудаваны на ўзор старадаўнае грэцкае сьвятыні. Ён спачывае на 36 стромкіх калёнах, якія уяўляюць 36 амэрыканскіх Штатаў, бо столькі іх было ў Задзіночаньні ў дзень сьмерці Лінкольна. Вялізарная белая мрамарная постаць гэтага вялікага дзеяча й вялікага чалавека-грамадзяніна займае сярэдзіну цэнтральнае залі будынку.

Зьведаўшы помнікі двух найвялікшых людзей Амэрыкі, нашыя экскурсанты паехалі на Арлінгтонскі Магільнік.

Арлінгтонскія Нацыянальныя Могілкі ляжаць на ўзгорку недалёка ад Вашынгтону й зьяўляюцца неад'емнаю часткаю сталіцы. Могілкі гэтыя вельмі прыгожыя. Тут шмат старых дрэваў, якія надаюць ім выгляд урачыстасьці й велічнага супакою, як і належыцца месцу, дзе спачываюць памерлыя Амэрыканскае Нацыі.

На найвышэйшым узгорку магілкаў стаіць г. зв. Арлінгтонскі Дом із Магілаю Нязнанага Жаўнера, дзе спачывае цела аднаго з непазнаных амэрыканскіх жаўнераў, перавезенае сюды з вайсковых магілкаў Францыі і ля якога дзень і ноч стаіць ганаровая вайсковая варта. Штогод, у Дзень Памяці Памерлых (Мэморыял Дэй) Прэзыдэнт ЗША складае тут прыгожы вянок.

Унізе, у падножжа ўзгорку цягнуцца бясконцыя шнуры простых, белых памятнікаў — магілы 16.000 паўшых у змаганьні за Бацькаўшчыну-Амэрыку жаўнераў-герояў.

З Арлінгтонскіх Магілкаў нашая экскурсія накіравалася была аўтабусамі ў Маўнт-Вэрнон — фальварак Вашынгтона, дзе ён жыў і памёр і дзе ўсё захаванае так, як было за ягонага жыцьця.

Фальварак ляжыць у нязвычайна прыгожай мясцовасьці на беразе Патамаку, у 16 мілях на паўдня ад Вашынгтону. Сьціплы дамок у тагачасным стылі із камінамі, простымі старымі мэблямі, у хаце тканымі дыванамі й васковымі сьвечамі ў простых ліхтарох — расчуляюць наведвальнікаў. Пакой, дзе памёр Вашынгтон, аддзелены ад вузкога калідору чорнаю кратаю, усе мінаюць моўчкі й з павагаю.

Вакол Дому Вашынгтона раскінены чароўны, зялёны парк.

Вузкая сьцежка вядзе праз парк да магілы Вашынгтона. Гэта — невялікая цагляная будоўля із белай мрамарнай трунай. Над уваходам — надпіс „Я ёсьць Уваскрасеньне й Жыцьцё. Той, хто верыць у мяне, няхай памрэць, а будзе жыць!...“

Наагул, ураджаньняў удзельнікі экскурсіі мелі ўдосыць.

Запраўды, трэба быць вельмі ўдзячнымі нашай моладзі якая дзякуючы сваёй энэргіі ды працы дае штогод магчымасьць нашай эміграцыі пазнаваць Амэрыку, пашыраць сваю веду й аб ейнай прыродзе і гісторыі ці культуры, якую стварылі вялікія людзі Новага Сьвету — першыя творцы запраўднае дэмакрацыі.

**Удзельнік.**



# З Беларускага Жыцьця

### АГУЛЬНЫ СХОД БЕЛАРУСАЎ НЮ-ЁРКУ.

14-га чырвеня г. г. у „Беларускай Хатцы“ быў склíканы агульны сход беларусаў Ню-Ёрку — сяброў БАЗА.

Адным з галоўных пунктаў парадку дня сходу было заснаваньне Ню-Ёрскага Аддзелу БАЗА, які-б задзіночваў працу усіх аддзелаў БАЗА ў мэтраполіі Ню-Ёрк, пераймаючы працу, выконваную дагэтуль Галоўнай Управай БАЗА.

Даклад аб гэтым пытаньні быў зроблены на пачатку сходу Старшынёю Галоўнае Управы БАЗА сп. Кушалям. Беручы на ўвагу вялікую разьлежнасьць места Ню-Ёрк, расьцягненага на дзясяткі кілёмэтраў і тое, што нашыя беларусы жывуць у розных частках гэтага места-гіганта, дакладчык запрапанаваў арганізаваць усе часткі Ню-Ёрку ў Ню-Ёрскую Акругу БАЗА, выбіраючы Урад Аддзелу БАЗА Ню-Ёрк, які ўжо сам, у меру патрэбы, можа арганізоўваць аддзелы БАЗА, або ягоныя дэлегатуры ў розных частках вялізарнае Ню-Ёрскае мэтраполіі. Дакладчык прапанаваў таксама захаваць дасюлешнія аддзелы БАЗА ў Брукліне, на Мангэттэне й у Мэспэце, дзеля палягчэньня працы Ураду аддзелу БАЗА Вялікі Ню-Ёрк.

Пасьля дакладу разгарнулася была шырокая дыскусія над запрапанавым сябром праэктам. Галасаваньне, праведзенае пасьля дыскусіі прыняло прыгаданую вышэй прапанову дакладчыка й гэткім чынам заіснавала Акруга БАЗА Ню-Ёрк. У Урад новапаўсталае Акругі былі выбраныя: старшынёю Ураду Акругі БАЗА Ню-Ёрк — др. В. Тумаш, першым заступнікам — сп. М. Тулейка, другім заступнікам — сп. Р. Казак (паэт Рыгор Крушына), сакратаром — сп-ня Я. Каханоўская й скарбнікам — сп. Іван Емельяновіч. Рэфэрат Сацыяльнае Апекі Акругі БАЗА Ню-Ёрк будзе й надалей весьці рэфэрэнт Сац. Апекі Галоўнага Ураду БАЗА сп-ня Б. Вержбаловіч.

Пасьля заладжаньня згаданага пункту парадку дня агульнага сходу беларусаў Ню-Ёку, прысутнымі быў абмяркаваны й заладжаны цэлы шэраг іншых пытаньняў, зьвязаных з жыцьцём ню-ёрскае беларускае эміграцыі.

### БЕЛАРУСКІ ДЗЯВОЧЫ СКАУТЫНГ

У сакавіку сёлета група беларускіх дзяўчатак была зарганізаваная ў невялікую пакуль што, але ахвочую й вясёлую скаўцкую грамадку. Адна з матак, сп. Зыбайліха ўзяла на сябе абавязак прывозіць дзяўчатак у „Беларускую Хатку“ на Бруклін, дзе адбываюцца ўсе нашыя скаўцкія зборкі. Кіраваць скаўцкаю дзявочаю грамадкаю ўзялася сп. М. Станкевіч із дапамогаю Алі Ворса, якая, нажаль, з прычыны студыяў у каледжы не заўсёды магла прыходзіць на зборкі. Маладзенькія скаўткі з вялікаю ахвотаю пачалі знаёміцца із скаўцкімі правамі ды прырачэньнямі, з абавязкам „добрага ўчынку“, з заўсёдным скаўцкім наказам „будзь гатоў“ і пашанай, належнай сьцягу. Побач з гэтым, на кажнай зборцы яны вучыліся расказваць што-небудзь цікавае, сьпяваць, танцаваць і гуляць. Калі крыху пацяплела, яны паехалі аднае сыботы ў скаўцкі лягер на Стэтэн Айлэнд. Там яны расклалі былі вагонь і зварылі смачны абед. Наступныя пасьля згаданае сыботы зборкі адбываліся ў парку, дзе скаўткі ды іхныя малыя сястрычкі вучыліся скаўцкіх гульняў, знаёміліся з першаю дапамогаю ў нешчасьлівых выпадках. Аднойчы скаўцкая грамадка выехала была ў Форт Трайон Парк, дзе ёсьць цікавыя сярэднявечныя манастыры. Пагода спрыяла й нашыя дзяўчаткі нязвычайна цешыліся і з сонца, і з парку, і з прыгожага гароду з рознымі рэдкімі расьцінамі й краскамі. У парку было зроблена шмат удалых здымкаў для скаўцкага альбому.



**Дзяўчаткі-скаўткі пад вішнёвымі дрэвамі парку.**

За нядоўгі час існаваньня дзявочае скаўцкае грамадкі, дзяўчаткі пасьпелі купіць за свае складкі (пяць цэнтаў на кажнай зборцы) кніжачкі „Girl Scout Book“, у якіх пішацца, як разьвіваць свае здольнасьці дыісьці напярэймы жыцьцю з ягонымі цяжкасьцямі сьмела, вясёла і пасяброўску дружна.

Але наш маладзенькі дзявочы скаўтынг мае, апрача пералічаных прыемных дасягненьняў, і шмат клопатаў ды перашкодаў. Скаўткаў за мала, каб зарэгістраваць іх як асобную скаўцкую групу (не стае дзьвюх), ды й зьбіраюцца яны ня зусім акуратна. І ў гэтай апошняй бядзе маглі-б нашай скаўцкай групцы дапамагчы бацькі, дазваляючы дзецям прыходзіць на зборкі й дапільноўваючы іх у гэтым. Бо чым шчыльней будуць нашыя дзяўчаткі задзіночаныя ў сваёй скаўцкай арганізацыі, тым лягчэй яны патрапяць высьцерагчыся ад небясьпекаў вялікага места і благой кампаніі, якія асабліва пагражаюць маладым.

**М. С.**

# Усё - на службу чалавецтва

(Да 125 угодкаў нарадзінаў Ганарыка Даната — заснавальніка Міжнароднага Чырвонага Крыжа).

8-га траўня 1828 году у вольнай навет на тыя часы, невялічкай краіне Эўропы Швайцарыі пабачыў сьвятло Ганарык Данат, закладчык шырака-ведамае і ўсімі апрача аднаго хіба Савецкага Саюзу, шанаванае арганізацыі Міжнароднага Чырвонага Крыжа. Магчыма, малады Данат і ня думаў у маленстве ці юнацтве пра тое, што ён станецца неўзабаве асновапаложнікам аднае з найвялікшых арганізацыяў дзеля служэньня чалавеку, але, як кажуць, прычынаю шмат якіх вельмі важкіх у жыцьці сьвету здарэньняў бывае... выпадак. Не абыйшлося бяз гэткага выпадку й у стварэньні Чырвонага Крыжа.

А было гэта так: У 1859 годзе, калі Ганарыку Данату было толькі 31 год, яму давялося назіраць змаганьне на палёх пад Салфэрна ў паўночнай Італіі, дзе Сардынія й Францыя пры Напалеоне Трэцім намагаліся здабыць сабе шляхам збройнага змаганьня супраць Аўстрыі незалежнасьць. Палі згаданага змаганьня расьцягнуліся былі шырокім пасмам даўжынёю ў 15 кілямэтраў... Бралі ў ім ўдзел каля 300.000 жаўнераў. 40.000 зь іх загінулі ў змаганьні, ці памерлі ад ранаў. Гэты вялізарны процант паўшых жаўнераў гэтак уразіў чулую душу маладога наглядчыка, што ён пачаў з гэтае пары нясупынна думаць пра заснаваньне якой-колечы ўстановы, якая-б магла даваць неабходную дапамогу раненым жаўнерам яшчэ на полі змаганьня. Вынікам гэтых упорыстых думкаў была брашура „Успаміны з Салфэрна“, выдадзеная ў 1862 годзе, якая ў сваю чаргу прывяла да зьезду 14-х нацыяў. Зьезд гэты адбыўся ў Швайцарыі ў жніўні 1864 г. На ім была падпісаная ведамая Жэнэўская Канвэнцыя, узятая за аснову пры стварэньні першае арганізацыі Чырвонага Крыжа. Аднак, ня гледзячы на ўзятыя на сябе забавязаньні, краіны-удзельнікі канвэнцыі і надалей аддавалі гэтай справе мала ўвагі і толькі малады Данат працягваў горача працаваць, застаючыся цэнтральнаю фігураю арганізацыі ды аддаючы ёй ня толькі свой час і сілы, але й усе свае грашавыя сродкі, што спрычынілася неўзабаве да ягонага зьбядненьня. Урэшце, у 1890 годзе Данату давялося пайсьці ў прытулак для старых у маленькім швайцарскім горскім мястэчку Гайдэн.

Вызваліў Даната зь бяды й вярнуў яго справе служэньня людзкасьці пяць год пазьней адзін журналісты, прыхільны артыкул якога, зьмешчаны ў адным з большых эўрапэйскіх часапісаў зьмяніў быў увесь лёс славутага дабрадзея. Прачытаўшы аб ім і ягонай бядзе, расейская імпэратрыца была прызначыла Данату сталую пэнсію, а Міжнародны Кангрэс Лекароў — 5000 франкаў дапамогі. У 1901 годзе ўпяршыню ўстаноўленая ўзнагарода Нобля была прызначаная ў галіне міру заснавальніку Міжнароднага Чырвонага Крыжа Ганарыку Данату, побач із францускім эканамістым і дзеячом Ф. Пассэй.

Вялікі швайцарскі філянтроп, якога ўсё жыцьцё хвалявала думка аб дапамозе нешчасьлівым, памёр у 1910 г., на 82 годзе жыцьця. Пахавалі яго ў месьце Цюрыху.

Адзначаючы сотыя ўгодкі ягоных нарадзінаў, бацькаўшчына Даната Швайцарыя выдала была дзеля ушанаваньня ягонае памяці адмысловую паштовую марку. Другая гэткая марка з патрэтам Даната была надрукаваная ў Бэльгіі з нагоды 75 угодкаў Жэнэўскае Канвэнцыі, а летась Заходняя Нямеччына, выпушчаючы ў сьвет сэрыю паштовых маркаў, прысьвечаных вялікім сусьветным гуманістым, не забылася зьмясьціць на згаданых марках і патрэт Ганарыка Даната. У гонар-жа самой Швайцарыі, бацькаўшчыны вялікага філянтропа Даната, Арганізацыя Міжнароднага Чырвонага Крыжа зрабіла сваім сьцягам швайцарскі нацыянальны сьцяг.

8 травеня сёлета ўвесь цывілізаваны сьвет урачыста адзначаў 125 ўгодкі нарадзінаў Ганарыка Даната — заснавальніка Міжнароднага Чырвонага Крыжа. Дзень 8-га травеня прызнаны Днём гэтае арганізацыі.

Нам беларусам, а асабліва маладому нашаму пакаленьню цікава будзе даведацца пра наш, беларускі Чырвоны Крыж. Дык вось, з момантам абвешчаньня нашай незалежнай дзяржавы ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі 25 Сакавіка 1918 г., быў заснаваны нашымі дзеячамі й Беларускі Чырвоны Крыж, як складовая частка Міжнароднага Чырвонага Крыжа, на чале з др. А. Цьвікевічам, які горача ўзяўся быў за належную разбудову гэтае арганізацыі ў нас. Аднак, калі дзейнасьць БНР на нашай зямлі спынілася й Беларусь занялі бальшавікі, і наш, беларускі Чырвоны Крыж замёр.

Спробы ягонага ажыўленьня ня мелі, як дагэтуль, удачы. Таму сучаснаму ураду БНР варта было-б заняцца гэтым пытаньнем, тым больш, што бальшавікі, якія прадстаўляюць сяньня наш народ на усіх міжнародных канвэнцыях, свайго беларускага Чырвонага Крыжа ня маюць.

**М. В.**

### ПАДЗЯКА

**Царкоўная Рада БАПЦарквы ў Ню-Брансьвіку складае шчырую падзяку ўсім тым беларускам і беларусом, якія дапамагалі Царкоўнай Радзе ў арганізацыі прыняцьця Уладыкі Васіля ў сувязі з царкоўнай урачыстасьцяй Ню-Брансьвіцкае парахвіі — Днём сьв. Евфрасіньні Полацкае й 5-ымі угодкамі Аднаўленьня нашае Аўтакефаліі.**

**Апрача гэтаго, Камітэт асабліва шчыра дзякуе сп-ням М. Ханяўка, Хмялеўскай, Сьпічонак, Сельвановіч, Кабушка й Стагановіч Тамары, якая вышыла арлецы для нашае царквы. Сардэчная падзяка належыцца й сп. А. Гэльвігу, які вельмі шмат дапамагае нашай царкве, а таксама сп. Бабру і ўсім тым, хто ўзялі ўдзел у ўрачыстасьці.**

**А. Азарка**
**Старшыня Царкоўнага Камітэту**

**Ад рэдакцыі дадаем, што Ню-Брансьвіцкая Царква носіць імя Жыровіцкае Божае Маці, а не сьв. Еўфрасіньні Полацкае, як было праз памылку паданае ў нашай газэце.**

### КАНЕЦ ІЛЮЗІЯЎ

На заканчэньне хочам яшчэ прыгадаць аб канцы іншых, вельмі сваеасаблівых, ілюзыяў — ілюзыяў чэхаў. Крывавыя падзеі ў ўсходняй Нямеччыне папярэджаныя былі ня менш крывавымі падзеямі ў чэскіх гарадох. Тут таксама аснаўнымі сіламі паўстанцаў былі работнікі, бо галоўныя крывавыя дэманстрацыі адбыліся ў цэнтры чэскае прамысловасьці, у г. Пльзні, дзе выпрабляюцца танкі, артылэрыя, самалёты й кулямёты. Дэманстранты ірвалі й тапталі савецкія сьцягі, патрэты Готвальда ды іншых камуністычных галавароў.

З крыві няшчасьлівых людзей ніякі сумленны чалавек цешыцца ня можа, ён можа толькі аддаць ёй пашану. Асабліва-ж мы, беларусы, аддаем ёй гэтую пашану, бо яна будзе мо' тою кропляю, што перапоўніць мора крыві, пралітае нашым пакутным Народам у змаганьні за сваю свабоду.

**С. Клім.**